# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 5 (623) ГОД XIII 4 ЛЮТАГА 1968 г. ЦАНА 60 гр.


## БГКТ

### ШТО ЗРОБЛЕНА Ў 1967 г.

**Бельскі аддзел**

У Бельскім павеце ў канцы 1967 года ў 46 гуртках БГКТ налічвалася 1572 члены. Было прынята ў рады таварыства 75 новых членаў, а скрэслена 43 асобы.

Нядрэнна разгортвалася мастацкая самадзейнасць. Дзейнічала 24 аматарскія калектывы. Некаторыя з іх далі шмат выступленняў. I так, самадзейнікі з Кожына і Рыбалаў — па 7 выступленняў, з Аўгустова, Пасынак і Пілікаў — па 8, з Крывой — 9, з Паўлаў — 12 і з Малліннікаў — 17. Бельскі хор даў 18 канцэртаў. У суме ўсе аматарскія калектывы ў 1967 годзе выступалі 131 раз.

Праўленне Бельскага аддзела арганізавала шмат мерапрыемстваў з нагоды 25 гадавіны ППР і 50 гадавіны Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. У сувязі з першым юбілеем было прачытана 22 даклады, а ў сувязі з другім — 45 дакладаў, арганізавана 32 акадэміі і вечарыны, а таксама фэстын у Войшках.

У 1967 годзе Бельскі аддзел арганізаваў: рэцытатарскі конкурс вучняў пачатковых школ, канферэнцыю з выкладчыкамі беларускай мовы, нараду актыву БГКТ, 32 фотавыстаўкі «З жыцця Савецкай Беларусі», навагоднюю ёлку для дзяцей, некалькі вечарын для актыву і хору аддзела. У мінулым годзе аддзел прадаў 1900 экземпляраў розных выданняў ГП БГКТ.

**Сямяціцкі аддзел**

Сямяціцкі аддзел БГКТ у мінулым годзе сканцэнтраваў свае намаганні вакол паасобных гадавін. З нагоды 25-годдзя ППР арганізавана 4-ы вечарыны, 2 сустрэчы з былымі пэпэраўцамі і праведзена 10 гутарак у розных мясцовасцях. На 49-ую гадавіну Савецкай Арміі падрыхтавана 3 вечарыны і 24 спатканні з афіцэрамі Войска Польскага. У сувязі з I-ым Маем наладжана 4 акадэміі і 5 вечарын. У гадавіну заканчэння II сусветнай вайны праўленне актыўна ўключылася ў арганізацыі мітынгаў і складанне вянкоў на могілках салдат Савецкай Арміі. Падчас Дзён асветы, кніжкі і прэсы было арганізавана 12 выставак беларускіх кніг і друку, а таксама 2 кніжныя латарэі. З нагоды свята Адраджэння Польшчы было падрыхтавана 3 вечарыны.

Найбольш розных мерапрыемстваў праведзена было аддзелам з нагоды 50-тай гадавіны Савецкай улады. I так, у Вілінаве адбыўся фэстын, у Мілейчыцах павятовая акадэмія і 8 акадэмій на вёсках. Праведзена было 47 гутарак на вёсках, падрыхтавана 34 фотавыстаўкі «З жыцця СССР» і была арганізавана сустрэча з удзельнікамі Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Сямяціцкі аддзел з іншымі арганізацыямі і ўстановамі правёў: рэцытатарскі конкурс для школьнікаў, агляд аматарскіх калектываў з беларускім рэпертуарам, арганізаваў адзін пункт навучання беларускай мовы і сабраў 23 экспанаты для этнаграфічнага музея БГКТ у Белавежы.

У Сямяціцкім павеце працуе 12 аматарскіх калектываў, якія далі 62 канцэрты, налічваецца ў 17 гуртках 518 членаў. Аддзел прадаў больш 800 экземпляраў кніжак выдадзеных ГП.

(мх)

БЕЛАРУСКАЯ КУЛЬТУРА І Я

## ІНТЭРВ'Ю З ЭЎГЕНІУШАМ КАБАТЦАМ



Вядомага польскага пісьменніка Эўгеніуша Кабатца ведаем, як чалавека шчыра і сардэчна зацікаўленага беларускай культурай. Гэта ён пераклаў на польскую мову «Трэцюю ракету», кніжку надзвычай таленавітага беларускага празаіка, Васіля Быкава; гэта ён піша глыбока асэнсаваныя рэпартажы з Беларусі і аб Беларусі; гэта ён намагаецца зразумець дух беларускай культуры, папулярызуе яе ў Польшчы.

Вось яго адказы на нашы запытанні.

**— Як з перспектывы шырокага свету перажыванняў адмалёўваецца ў Вашай памяці вобраз дзяцінства на ціхай беларускай правінцыі?**

— З перспектывы часу (не абы-якога, зрэшты, больш дваццаці год) кожны вобраз дзяцінства адмалёўваецца значна больш пагодна, чым было гэта напраўду. I хаця «ціхая беларуская правінцыя» не заўсёды ціхай была, бо вайна на доўгія гады парвала яе абалонку спакою, да крыві, да самога нутра — аднак жа сентымент, што нарастае ў меру аддалення ў прасторы і часе, загладжвае шмат чаго з варварства і трагічных непаразуменняў тамтых гадоў, пакідаючы ў памяці тое, што беспалотнае і прыгожае, тое, да чаго хацелася б вярнуцца. Пэўную складанасць выклікае тут факт, што тое далёкае дзяцінства маё меў я раскладзена як бы на дзвюх вагах: пражываючы ў Ваўкавыску знаходзіўся я і выхоўваўся ў польскім асяроддзі; выязджаючы на вёску, у напрамку Белавежскай пушчы (а выязджаў я часта, на цэлыя канікулы) трапляў паміж беларусаў, паміж іх звычаі і моўныя асаблівасці...

**— Які ўплыў на Вашу творчую асабовасць аказаў беларускі фальклор?**

— ...тыя асаблівасці, якія істотна ўплылі, так мяркую, на маю асабовасць сваім багаццем народнай культуры, а таксама — характаралагічна — пэўнай лагоднасцю, дабратою, хаця хіба толькі часткова. Зрэшты, не мне ацэньваць. Думаю, што шмат трапней маглі б выказацца на гэту тэму мае сябры або чытачы...

**— Як Вы ацэньваеце інспіруючыя вартасці народнай культуры ў стваран-**

(Працяг на стар. 4)

**ДА 130 ГАДАВІНЫ НАРАДЖЭННЯ К. КАЛІНОЎСКАГА**

**Так сейце ж, дзецюкі, як прыдзе пара, поўнаю рукою, не шкадуйце працы, каб і мужык быў чалавекам вольным, як е на цалюткім свеце!**

**«Мужыцкая праўда» № 3.**

Шмат чаго напісана аб Кастусю Каліноўскім, рэвалюцыянеру, змагару за мужыцкую праўду, за Беларусь. I за кожным разам, калі вяртаешся да літаратуры аб Каліноўскім, магутнейшай стаецца яго веліч як чалавека, беларуса, інтэрнацыянала. Усё больш хацелася б аб ім ведаць, пазнаць гэтага своеасаблівага чалавека. Думкі тым больш азартныя, што радзіма «Яські гаспадара з-пад Вільні» знаходзіцца ў **Мастаўлянах** на Беласточчыне ля самой граніцы Польшчы і БССР. Іменна ў гэтай вёсцы 2 лютага 1838 года ў сям'і беззямельнага шляхціца Сымона Каліноўскага нарадзіўся сын Канстанцін.

Знамянальная гадавіна нараджэння аднаго з найвялікшых сыноў беларускага народа завяла мяне, у адзін студзеньскі марозны дзень, на радзіму Каліноўскага. Гэта мой першы візіт у Мастаўлянах, і можа таму мне больш, чым іншым, удалося адчуць моўную




атмасферу «Мужыцкай праўды», рэдактарам якой быў Каліноўскі. Нават мастаўлянскія школьнікі часта ўжываюць слоў, пры дапамозе якіх Каліноўскі заклікаў мужыкоў, каб былі людзьмі вольнымі.

У Мастаўлянах пастаўлена помнік Кастусю — новы школьны будынак. Гэты помнік хіба і з'яўляецца найбольш наяўным прыкладам таго, за што змагаўся Каліноўскі. Школа, у якой зараз навучаецца 122 дзяцей, мае імя Кастуся Каліноўскага, аб чым паведамляе выпісаная на польскай і беларускай мовах мемарыяльная дошка. У гэтай жа школе дзеці вучацца беларускай мовы, працуе аж 6 настаўнікаў, вядуцца курсы для дарослых для заканчэння пачатковай школы. Моладзь з гуртка ЗМВ пры дапамозе настаўнікаў ставіць беларускія п'есы. Вучні вядуць багатую перапіску з сябрамі ў БССР. Бывалі таксама пісьмы і з Вялікай Бераставіцы, дзе дзейнічаў родзіч Мастаўлян, а школа мае таксама яго імя. Кожны год адбываюцца ў школе вечарыны ці «паранкі» прысвечаныя памяці Кастуся.

(Працяг на стар. 5)



Мастаўляны ў студзеньскі дзень 1968 года.

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 110


## „Сярэбраны Яздок"

**Прысніўся мне кароль Беларусі, а каралём гэтым быў Кастусь Каліноўскі.**

(урывак аповесці)

Уцякаць! Вільдовіч сціснуў стрэльбу. З коміна ледзь відочны дым, у хаце вочы, дагадныя і разумныя.

— Харошы дзень, — сказаў абы сказаць.

— Ах, як тут спакойна!

Уздрыгануў, прыгледзеўся валахатымі вачыма.

Яна гаварыла далей:

— У Вільні кашмар...

Перабіў ёй:

— Перастаньце, не хачу ведаць, адкуль вы і хто вы. Так трэба — маўчаць перад ворагамі і перад сябрамі.

Яна пачырванела.

— Выбачце.

Заціхлі, па дарозе ад вёскі праехалі сані.

— Возьмеце мой кажух, зіма на свеце. У вашым кажушку адно на баль хадзіць.

Вільдовіч не ўмеў выясняць папарадку.

Выйдуць адсюль як толькі сцямнее.

— Вы прыехалі па тры словы: **«пугачоў у лесе няма».** Паўтарыце іх таму, хто вас выслаў. (Абазначала гэта: друкарня нявыкрыта, зямлянка збудаваная).

— Гэта ўсё? — сказала з радасным недаверам. Верыла гэтаму чалавеку.

— Не забудзьце, — пацвердзіў Вільдовіч.

— Макарэвічу? — яе роспыты ірытавалі.

Вільдовіч адвярнуўся.

Сказаў недаказанае:

— Выйдзем увечары, да паўстанку ў Васількове, на віленскі цягнік.

— Добра, — яна не ведае, колькі дарогі чакае яе.

— Зменіце прычоску, дам іншую хустку, даўжэйшую, каб выглядалі старэй.

Нечакана прайшла злосць.

— Могуць слядзіць, — сказаў непатрэбнае.

Яе вочы заблішчэлі мёртвым бляскам. Ён адчуў гэты бляск, але не зразумеў, чаго засмуцілася.

— Галоўнае, не баяцца! — гаварыў, бы да дзіцяці.

Няўжо здагадваецца?

Прысела на зэдліку і цыруе шкарпэткі, рукі спраўныя.

Не, не здагадваецца.

Вільдовіч узяўся шмараваць боты.

Марыя Грыгатовіч пэўная, што след загублены ад сышчыка і ў галаву не прыходзіла ёй, што сышчык, мабыць, прастаяў ноч ля хаты. Заданне без рызыкі, саромелася свайго страху перад Макарэвічам.

Нервы, знак старасці. Старасць, састарэлася ў дваццаць пяць год? Дзень прамінуў на рыхтаванні да начнога паходу, пацыравала таксама і стараватую хусту, мела ў ёй ехаць. Старалася не гаварыць.

Шчаслівы вечар, пахмурны і цёмны.

— Мы не бачым і нас не бачаць, — зажартаваў Вільдовіч.

Не паспелі ўглыбіцца ў лес, далёка — на гасцінцы за вёскаю — заіржалі коні і паняслася казацкая лаянка.

— Патруль! — Вільдовіч хацеў сказаць яшчэ штосьці.

Скінуў з плячэй стрэльбу.

— Хутчэй, — зашаптаў пранізліва.

Грыгатовіч паспявала за яго хадою, па твары секла абледзянелае голле, знаходзіліся ў арэшнікавых зарасніках, беглі па глыбокім снезе да ялінавых гушчароў. Галасы засталіся ззаду. Зыходзілі ў далінку, лес спазіраў на іх раскудлачанымі соснамі. З-пад ног выскачыў заяц, запішчаў па-дзіцячаму, скачучы вобмацкам праз кусты.

Ішла і ішла без аглядкі, наперадзе бяспечна маячыў Вільдовіч. Завыў воўк, цягнуў несамавітую песню. А мо ганьё? Грыгатовіч пачула, як цячэ па спіне пот, ліпне бялізна. Раптам наперадзе ўзняўся грукат і гуканне, і жах. І захістаўся лес.

— Цьфу, каб вас халера пабрала! — вылаяўся Вільдовіч.

Спыніўся, пацёр рукою твар.

— Змучылася пані?

Грыгатовіч не магла аказацца.

— Адпачнем крыху, сядаць нельга, гэта робіць горш. Трэ' адпачываць, апёршыся аб хвою.

Пастаялі.

— Дзікі? — азвалася.

— Цэлая чарада засела. На зіму так.

— Хо, горача.

— Мароз нястрашны.

— Лазня.

— Як пані чуецца? — Вільдовіч перайшоў на «пані».

— Вытрымаю, — сказала яна. — Хіба ўжо недалёка?

У яе позірку надзея.

— Го-го, і паловы не прайшлі, — Вільдовіч хацеў сказаць, што і трэць дарогі не прайшлі.

Нельга бянтэжыць, але і не рабіць залішняй надзеі: адно і другое аслабляе сілы.

Убок Вярхлесу загрымелі выстралы, адзін за другім, потым адзін і яшчэ адзін. Вецер ішоў гарою, здуваў у нетры накоцістае рэха.

Пасталі.

— Паўстанцы? — Марыя Грыгатовіч не бачыла праўдзівых паўстанцаў, са зброяй і ў лесе.

— Не, пані. Не так гучаць паўстанцкія стрэлы.

Павярнулі ў гушчары, праз нейкі час паказалася прагаліна, сцежка заваленая снегам. Вецер ціх, на небе з'яўляліся зоркі, штораз загараліся ў клочча нізкіх хмараў.

— Госпадзі! — пачуўся енк збоку, хрыпат, як бы хто каго душыў.

Пацярпянела скура. Вільдовіч прысеў за ёлачкі, Грыгатовіч зрабіла тое самае, сэрца забілася так, што нічога не чула больш. У месячным бляску вываліўся з гушчару на сцежку чалавек, пастаяў і паваліўся.

Чалавек ляжаў тварам уніз, раскінуўшы рукі, нага падкурчылася. Плямы крыві. Наўкола маўчанне. Вільдовіч падняўся і са стрэльбаю напагатове падыйшоў да чалавека, павярнуў яго, абцёр снегам закрываўлены твар, расшпіліў паліто, разарваў цёплую бялізну і пачаў націраць грудзі.

— Жыве?

— Націрайце твар, шчокі, вушы, нос, — загадаў для Грыгатовіч.

Дапякаў мароз, калелі пальцы. Чалавек загаварыў без памяці, адзеты па-гарадскому. У высокіх ботах.

Угледзелася ў твар, як бы знаёмы твар. Без усмешкі, без усмешкі...

— Ах! — войкнула.

Узяла сябе ў рукі, заціснула губы.

Чалавек выдыхнуў выразныя словы:

— Мяне напалі, верны след... домік лесніка..., — намагаўся гаварыць далей, паліла гарачка, трызніў. — Домік лесніка! — закрычаў.

Вільдовіч здзівіўся.

У чалавека глыбокая рана на галаве, перавязалі яе.

— Больна! — застагнаў чалавек, расплюшчыў вочы, яны каціліся пад лоб. — Гаспадзін начальнік.. — выпшаптаў па-руску. — Парафіяновічу верыць... Верыць! — завыў. — Там Каліноўскі, сабача маць, там... браць... браць яго..., — не дакончыў.

Сціх.

Вільдовіч уставіўся на Марыю Грыгатовіч.

Сказаў:

— Здох.

Ён зразумеў, хто гэты чалавек, і яна зразумела.

— Шпег!

— Напэўна.

— Што рабіць?

— Перш за ўсё, спакойна вясці сябе.

— Кастуся Каліноўскага збіраюцца арыштаваць!

Вільдовіч запытаў:

— Вас слядзілі?

Не адразу адказала.

— Думала, уцякла ад яго.

— Ён быў уначы каля хаты.

— Вы бачылі яго!?

— Не. Хтось хадзіў, але гэта мог быць толькі ён.

І выясніў.

— Такія сляды пакідаюць боты, добрыя боты.

Вільдовіч вырваў з акасцянелых пальцаў рэвальвер, памайстраваў пры ім.

— Выстраліў чытыры кулі. Бараніўся перад кімсьці, хто ўдарыў яго знянацку. Аслаб ад крывацёку, зблудзіў.

— Тыя стрэлы ў лесе... — Грыгатовіч не дакончыла.

Было ясна.

На сцежцы сеў заяц, паставіўшы вушы.

— З віленскай паліцыі, — сказаў Вільдовіч, абшукаўшы кішэні трупа.

Прачытаў дакументы.

Трупа завалаклі ў зараснік, прыкрылі сухападам.

**Сакрат Яновіч**

**Аповесць для моладзі «Сярэбраны Яздок» напісана на 130-тую гадавіну з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага, нацыянальнага героя Беларусі. Дзея аповесці адбываецца, між іншым, і на Беласточчыне.**

**«Сярэбраны Яздок» рыхтуе да друку выдавецтва БГКТ.**



**К. Каліноўскі і В. Врублеўскі праводзяць агляд паўстанцаў у 1863 г. Карціна П. Сергіевіча.**



## ЛЯ ПОМНІКА ПУШКІНУ

**Масква. Зіма. Мароз раскатам**
**Пусціў**
**па дахах**
**сонца**
**ў кар'ер.**
**Цвярскім бульварам іду з Арбата.**
**Пушыцца інеем каўнер.**
**І бачу:**
**у ззянні дня марознага**
**Смяюцца залівіста, ад душы,**
**І тупаюць па снезе грацыёзныя**
**Чырванашчокія малышы.**
**Жэўжыкі, захутаныя па вушы,**
**Кожнага дзядзьку бяруць на прыцэл.**
**А побач —**
**проставалосы Пушкін**
**З капелюшом змятым у руцэ.**

**Адзін хлапчук узабраўся на санкі**
**І звонка крычыць паэту:**
**— Дзядзечка Пушкін, адзень вушанку,**
**Замерзнеш,**
**цяпер не лета!..**

**Юрка Зубрыцкі**




**I.**

**Пад новы плён араў загон**
**Мой працавіты тата.**
**У глебу ён пасеяў лён,**
**Бліскучыя зярняты.**

**І рос лянок, рос даўгунок,**
**Матуля даглядала.**
**Як васілёк, цвіў, цешыў зрок,**
**Даспельваўся памалу.**

**Рвалі лянок, а вецярок**
**Прасушваў дбала жмені.**
**Клалі ў вазок, звязлі на ток,**
**Прачом стаўклі насенне.**

**Пазней лянок плыў у ставок,**
**Мачыцца у вадзіцы.**
**Мачыўся, мок, і на лужок**
**Зноў выплываў сушыцца.**

**Чарэн прыпёк, стагнаў лянок**
**У церніцы зубастай.**
**Наступны крок — на калдубок —**
**Трапачкай білі часта.**

**II.**

**Прадзе, прадзе з кудзелі ніць**
**Раўнюткую матуля.**
**Крутая ніць з рукі бяжыць**
**На калаўротка шпулю.**

**Снуе, снуе матуля ніць**
**На сноўніцы крылатай.**
**А сноўніца скрыпіць, рыпіць,**
**І кружыць з ёю хата.**

**Туды-назад, туды-назад,**
**Гоніць рука чаўночак.**
**Матуля кужаль тчэ, варштат**
**Туркоча ўдзень і ўночы.**

**На луг са мной ішла вясной**
**Бяліць палотны мама,**
**Я па дарожцы ільняной**
**Бег босымі нагамі.**

**Каторы год ужо мінуў...**
**Цяпер мая матуля**
**З калісьці вытканага льну**
**Даношвае кашулі.**

**Віктар Швед**




# АПОШНЯЯ КУЛЯ-САБЕ

Мікалаю Турыку зараз 50 год. Жыве ён у сваёй роднай вёсцы Навасёлкі, у Сямяціцкім павеце. Аднавяскоўцы выбралі яго солтысам. Добры з яго гаспадар і актыўны чалавек. А калі з нагоды нейкага свята паклічуць яго у прэзідыум урачыстага пасяджэння ў Мілейчыцах або Сямяцічах — на яго грудзях золатам блішчаць высокія чырвонаармейскія медалі і ордэны.

У Чырвоную Армію паклікалі яго ў 1940 годзе. У родных Навасёлках засталася маладая жонка, а ён пайшоў у танкісты. Было яму тады 23 гады. Вядома, не спадзяваўся, што яго разлука з жонкай, з бацькамі і роднай вёскай зацягнецца аж на 6 доўгіх год. А потым рэдка калі верыў, што яшчэ пабачыць іх жывымі і здаровымі.

Турык паказвае нам пажаўцелую выразку з салдацкай газеты «Бальшавік». Тут пішуць пра яго: што перадавік ваеннага абучэння, што добра засвоіў абавязкі танкавага стралка, што ахвярны салдат.

Калі на досвітку 22 чэрвеня 1941 года развязалася вайна, Турыкава бранятанкавая часць знаходзілася пад Ленінградам на летнім палявым абучэнні. Пра вайну даведаўся 2 дні пазней, калі палітрук, старшы лейтэнант Верысалаў, выдаўшы ім наганы, заявіў:

— У вас у кожнага па 14 штук патронаў. Памятайце, што апошні заўсёды застаецца сабе.

І сапраўды, верылі яны, што так трэба, што так неабходна, каб толькі жывым не здацца ворагу.

— Я свой баявы хрэст атрымаў у Алакурці, Петразаводскай вобласці. Днём і ноччу мы шмат разоў выязджалі ў наступленне. З 26 на 27 чэрвеня танк наш разбіў 3 варожыя гарматы. Заахвочаны поспехам, камандзір танка загадаў: «Наперад!» Танк праскочыў нейкіх 20 метраў, і я раптам пачуў, два — адзін за другім — магутныя снарадныя ўзрывы. Танк раптоўна спыніўся. Трэці снарад ударыў у вышку, дзе я сядзеў за кулямётам. На шчасце не прабіў яе. Танк запоўніўся дымам і агнём. Мае таварышы былі пабіты. Я неяк выбраўся з танкавай вышкі і без памяці пакаціўся на зямлю. Фрыцы тут жа пачалі страляць па мне з аўтаматаў. Я скочыў пад свой гарачы танк. Чую, што валасы ў мяне на галаве ўжо трышчаць ад агню і не магу глядзець на вочы. «Тут ужо мне канец, — думаю. — Зараз снарады ў танку пачнуцца разрывацца і загарыць бензін». Выручыў мяне другі наш танк. Ён беглым агнём прыкрыў варожых аўтаматчыкаў, і я, прыціснуўшы жывот да зямлі, змог адпаўзці. Дабраўся неяк да сваёй базы і, змяніўшы забітага вышкавага стралка на другім танку, тут жа зноў рушыў у бой. Раніцай вочы мне так разбаленіся, што не мог я глядзець. Прыйшлося ісці ў санчасць. На другі дзень палітрук Верысалаў, які прыйшоў да мяне разам з начштаба, капітанам Дружыніным, запытаў:

— Чаму вы, таварыш Турык, апалены паехалі зноў у бой?

— Хацеў адпомсціць за разбіты экіпаж майго танка, — гавару яму.

— Так, мы ведаем, што ваш экіпаж быў самы лепшы. Вашых таварышаў мы прадставім да пасмяротнай узнагароды «Героем Савецкага Саюза», а вас узнагародзім «Ордэнам Чырвонага Сцяга».

Пад Петразаводскам, калі Турык выстраляў усе снарады і патроны, калі не хапіла бензіну, прышлося танк узарваць. Пасля лячэння (быў паранены ў ногу) і перагрупіроўкі танкіст Мікалай Турык стаў артылерыстам.

— На весну 1942 года я апынуўся пад Варонежам. Памятаю, што ноччу пераправілі нас паромам праз шырокую рэчку, і там вялі мы баявы абстрэл немцаў у горадзе. Бой ішоў заўзяты. Урэшце і нам і пяхоце не хапіла патронаў і снарадаў. Камандзірам у нас быў нейкі навічок. Ён без слова кінуўся да рэчкі. За ім іншыя, а незадоўга пачала адступаць пяхота. Я ля нашай гарматы застаўся адзін. Падышоў да мяне наводчык суседняй гарматы, нейкі зусім яшчэ малодзенькі, сеў побач і пытае:

— Што нам рабіць?

— Не ведаю, — гавару яму. — Адступаць загаду не было. Пакуль што пасяджу, пачакаю. Можа снарады даставяць.

— А калі немцы пачнуць наступаць?

— Тады — вось, бачыў, — паказваю яму гранату «лімонку». — Калі захочаш, дык хопіць гэтага жалеза для нас двух, а гарматы знішчым.





**Мікалай Турык з Навасёлак у Сямяціцкім павеце ў 1941 годзе і цяпер.**

Раптам немцы пачалі абстрэльваць нас шрапнельнымі снарадамі. Асколкі сыплюцца, як град. Мы схавалі галовы пад шчыток сваёй гарматы, а ногі і ўсё апошняе ляжыць на адкрытым полі. Пасля мінут 20-ці ўсё заціхла.

— Зараз пойдзе нямецкая пяхота, — гаворыць мой сябра. І я гэтага спадзяваўся. Ужо падрыхтаваў сваю «лімонку». Але. на шчасце, нашы паспелі першыя. Паднеслі снарады і зноў мы ўступілі ў бой.

Бой за Варонеж ішоў шмат дзён. Здаралася і так, што нямецкая пяхота падыходзіла да турыкавай гарматы на некалькі сот метраў. Бачыў іх без біноклаў. Адбіваўся тады простай наводкай. А шчасце яму спрыяла. Двойчы змяніліся людзі з абслугі яго гарматы, заступалі пабітых таварышаў. Урэшце фашысцкая куля дасягнула і яго. Прабіла левую лапатку — на палец над сэрцам. Да зімы праляжаў у бальніцы. А потым зноў на фронт — пад Крывым Рогам, дзе фарсіраваў Днепр, пад Белгарадам, дзе разбілі 26 фашысцкіх дывізій, пад Кішынёвам... І ў многіх іншых гарадах і мясцовасцях. Вайну закончыў у Балгарыі ў маі 1945 года.

**Віктар Рудчык**

# ІНТЭРВ'Ю З ЭЎГЕНІУШАМ КАБАТЦАМ

(Працяг са стар. 1)

**ні каштоўнасцей нацыянальнай культуры?**

— Народная культура з'яўляецца неразлучнай часткай агульнанацыянальнай культуры. Нават там, дзе здавалася б, непадзельна пануе сучасная мяшчанская культура, яе карэнні, хаця не заўжды відавочна, сягаюць народнасці, калі прымем яе як гістарычную катэгорыю, значыць, зменную і ў няспынным развіцці. Ва ўмовах сацыялістычнай канцэпцыі развіцця чалавека найлепшыя традыцыі народнай культуры могуць увайсці ў натуральны кровазварот наватворнай агульнанацыянальнай культуры, інспіруючы нават сучаснае мастацтва, а ў ім яго эрзац — элітарнае мастацтва. Бо толькі такім чынам можна захаваць асаблівасць чалавека пад націскам уніфармізуючай усё тэхнічнай цывілізацыі.

Калі ж разыходзіцца пра культуры маладыя ў сваёй арыгінальнасці, — а да такіх, менавіта, належыць беларуская культура — дык традыцыі народнасці, яе аўтэнтычныя, вялікія каштоўнасці відавочным чынам — і патрэбным — з'яўляюцца інспірацыяй, якая заражае культурную сучаснасць.

**— Якую, паводле Вашай думкі, ролю павінны адыгрываць элементы розных этнічных культур ва ўзнікаенні аднароднай масавай культуры па-наднацыянальнага характару? Ці не бачыце Вы патрэбы выкарыстоўвання беларускай народнай культуры — найбольш першабытна славянскай — як славянскай асновы масавай культуры?**

— На маю думку не павінна існаваць ніякая асобная па-наднацыянальная культура; еўрапейская культура, напрыклад, не павінна быць нічым іншым, як толькі сумаю паасобных нацыянальных культур, якія ўзаемна дапаўняюцца і ўплываюць на сябе. Тое ж датычыць масавай культуры, прытым маю сур'ёзныя падставы сумнявацца што да абгрунтаванасці такога паняцця... Аднак жа можна гаварыць аб некаторых па-наднацыянальных вартасцях паасобных культур, што неаднаразова дае ім магчымасць выхаду з непатрэбнай, часта надта шкоднай ізаляцыі, зусім не памяншаючы іх нацыянальнага характару. Як з гэтым вяжацца народнасць? Вельмі проста: як натуральная пракрыніца. Ці беларуская «пракрыніца» з'яўляецца натуральнейшай славяншчыне, чым іншыя? Сумняваюся; баюся, што пацвярджаючы гэта дапусціліся б граху зусім беспадстаўнай пыхі.

**— Якія Вашы планы?**

— Закінуць белетрыстычную творчасць дзеля літаратурнай эсэістыкі.

Інтэрв'ю ўзяў:

**Сакрат Яновіч**

# „ŻYCIE LITERACKIE" ЗНАЁМІЦЬ З БЕЛАРУСАМІ

Папулярны літаратурны тыднёвік «Życie literackie» у нумары 3(834) за 21 студзеня г.г. прысвяціў цэлую старонку творчасці нашых «белавежцаў». Змешчаны тут вершы Алеся Барскага, Юркі Зубрыцкага, Яшы Бурша і празаічныя мініяцюры Сакрата Яновіча. Ёсць і ўводны артыкул, які знаёміць чытачоў з беларускім літаратурным жыццём у ПНР.

«Беларуская» старонка «Жыцця літарацкага» — першая спроба знаёмства польскіх чытачоў з творчасцю членаў нашага літаратурнага аб'яднання. Ініцыятарам гэтага знаёмства — рэдакцыйнаму калектыву «Жыцця літарацкага» — належацца шчырыя словы падзякі.

Варта таксама адзначыць і працу перакладчыкаў: Віктара Рудчыка (вершы) і Эдварда Радлінскага (проза). Гэта іх першыя перакладчыцкія спробы. Хіба ўдачныя.

(рл)




ХРЭСТАМАТЫЯ ДЛЯ VI КЛ.

## АСТАП

У той дзень людзі толькі што пазбіраліся раніцой з лясоў, дзе яны хаваліся ад нямецкіх карнікаў. Некаторыя не знайшлі сваіх хат. На іх месцах датлявалі цёплыя яшчэ папялішчы. Не знайшоў свае хаты дзед Астап. Не знайшоў і нявесткі, і двух маленькіх унучкаў. Людзі сказалі яму, што яны згарэлі ў хаце, што іх загубілі немцы.

Ад усяго двара засталася абгарэлая груша. Снег паспеў запарушыць яе голле, і яна чамусьці здалася дзеду колішняй вясновай грушай, у пахучай квецені, у пчаліным гудзе, які нагадвае чымсьці чалавечую радасць. Але гэта здалося яму, здалося на якую секунду. Дужы і моцны яшчэ чалавек, ён неяк адразу аслаб і, прытуліўшыся да абгарэлага дрэва, прыплюшчыў вочы, бяссільна пахіліў галаву. Перад яго зрокам узнікалі светлымі зданямі светлавалосыя галовы, дзіцячыя ўсмешкі, сінія вочы. Яны так лагодна ўглядаліся на яго. Унукі ўзбіраліся на калені, церабілі яго за бараду, лашчыліся, прасілі.

— Раскажы, дзеду, страшную казку!

— Не, не буду расказваць вам страшную казку.

І ён чамусьці ўздыхнуў. Але, адразу спалохаўшыся, тут жа радаваў іх:

— Я раскажу вам лепш вясёлую...

І ён расказваў пра хітрага вожыка і мудрага дзятла. Расказваў пра залатога чмяля і яго дзівосныя палацы ў лахматай купіне. І голас дзеда гуў, як чмяліны гуд. Засыналі ўнукі і праз сон пыталіся:

— А скажы нам, дзеду, дзе татка цяпер?

— Далёка татка, не відна яго за вайной... Вы вось засынайце, і хто хутчэй засне, той татку сасніць.

Ён пераносіў іх сонных на ложак, сам распранаў, і нявестка заўсёды саступала яму ў гэтай справе. Як жа, яго гадуны, як ласкава называў ён унукаў.

...Паснулі ўнукі... Не ўбачыць ім ужо ні таткі, ні дзеда, ні зялёнай грушы. А тыя, што зрабілі гэты дзікі глум, пайшлі жывыя. І дзеці іх... таксама жывыя.

Думка скаланула яго, працвярозіла. Ён бачыў папялішчы. Марозны вецер раздзьмухваў попел, і сям-там слаба тлелі маленькія вугальчыкі. Сыпаў жорсткі снег, сінелі пад ім галавешкі, абкалакваліся танюткімі струмянямі пары. Дзед Астап страпянуўся. Моцны мароз даваў сябе адчуваць, зусім скалелі ногі. Ледзь разгінаючы іх, сутулячыся, ён пайшоў уздоўж вуліцы, бязмэтна заходзіў у хаты, моўчкі сядзеў, моўчкі выходзіў. Яго не суцяшалі. Было так багата гора ў людзей і такое вялікае гора ў яго, што лепш было даць чалавеку выхадзіць яго на самоце, развеяць яго па дарогах і сцежках. І ён хадзіў і ўсё думаў адну сваю думу: як знайсці меру святой чалавечай помсце? Тут жа ўзнікла другая думка: прычым жа тут дзеці?

...Апоўдні да вёскі падышла група людзей. Было нават дзіўна, як дабраліся яны ў гэтую замець. У некаторых былі забінтаваныя галовы — ці то параненыя, ці то абмарожаныя вушы можа ў чалавека. Адзенне ва ўсіх было на ўздзіў абшарпанае, залатанае, лахманы на лахмане. Некаторыя пакульгвалі. Твары былі худыя, пасцягнутыя. Яны хадзілі пад вокнамі, стукалі ў шыбы, і пярэдні, што быў з перавязанай рукой, жаласна дапытваўся:

— Братцы, адгукніцеся, калі ў хаце жывая душа!..

У некаторых з іх былі вінтоўкі, аўтаматы. З-за вёскі падыходзілі яшчэ групы такіх жа кульгавых, абшарпаных.

Сёй-той вышаў з хаты. Пачала збірацца грамада людзей.

Чалавек з перавязанай рукой усё пытаўся:

— Братцы, а ў вас фашыстаў часам няма шака?

Яму ніхто не адказаў. Негаваркія былі людзі ў гэты дзень. Маўклівымі позіркамі паказалі на папялішчы; нехта скупа дадаў:

— Былі... Сляпы, і той убачыць іх след.

— Ах, божа ж наш, божа!.. — жаласна заенчыў чалавек з перавязанай рукой. — Не дай жа госпадзі трапіць у іхнія лапы... А мы вось, — ён паказаў здаровай рукой на сваю групу і панізіў голас, — толькі што ўцяклі з Пярэжырскага лагера. Варту перабілі і ўцяклі...

Твары ў вяскоўцаў пасвятлелі. Усе ведалі пра Пярэжырскі лагер, ведалі пра яго страшную славу. Чалавечая цяплынь з'явілася на тварах у жанчын, растапіла халадок на вуснах.

— Дык чаго ж вы стаіце на марозе? Заходзьце ў хаты ды абагрэйцеся. Ды можа ж, — ды што я кажу, даруйце мне, — ды трэба ж і пад'есці, дужа вас кармілі гэтыя... Каб яны на зямлі не хадзілі!

І некалькі галасоў змяшалася разам:

— Сапраўды ж, заходзьце...




Яшчэ не паспелі змоўкнуць спрэчкі аб першай трансплантацыі чалавеку чужога сэрца, як свет абляцелі весткі аб новых аперацыях.

Што гэта — новая эра ў хірургіі?

Фантазія старажытных стварыла страшыдлаў з львінай галавой, тулавішчам казы, змяіным хвастом. Ці магчыма існаванне хімер у нашы дні, прычым не з мармуру і гліны, а ўпаўне рэальных, жывых?

Сабака з дзвюма галовамі, які жыў некалькі тыдняў у лабараторыі савецкага хірурга Уладзіміра Дзяміхова, жывёліны з чужымі сэрцамі, лёгкімі. пячонкай, ныркамі — гэта таксама хімеры, стварыць якіх пад сілу сучаснай навуцы. У імуналогіі нядаўна з'явіўся нават тэрмін — хімерызм. Ён абазначае наяўнасць у арганізме чужых тканак і органаў.

Безумоўна, не саперніцтва з фантазіяй старажытных грэкаў захапляе вучоных. Час паставіў перад імі больш важную задачу — навучыцца замяняць хворыя органы чалавека іншымі, здаровымі.

Першы крок на гэтым шляху быў зроблены больш паўстагоддзя назад, калі француз Алексіс Карэль, які свята верыў у бязмежнасць магчымасцей хірургіі, пачаў перасаджваць жывёлінам чужыя лапы, скуру, ныркі. Вынік? Шчырае прызнанне, што хірургія не ў стане вырашыць праблему перасадак органаў. І Карэль, і яго паслядоўнікі заўжды станавіліся ў тупік перад непрыступным бар'ерам, збудаваным імунітэтам.

Парадоксы падпільноўваюць нас на кожным кроку. Імунітэт — выратавальны дар прыроды. Яму мы абавязаны за засцярогу ад бактэрый, вірусаў.

З першага дня ўзнікнення імуналогіі вучоныя шукалі сродкі ўзмацніць засцерагальныя сілы арганізма, дапамагчы яму ў адзінаборстве з мікробамі. І тут ім спадарожнічала ўдача. Створаны вакцыны і сыраваткі, пераможаны многія небяспечныя хваробы — воспа, чума, адзёр, шаленства...

Але чужое не заўсёды шкоднае. Бывае, перасадка органа — адзіная магчымасць выратаваць жыццё! Аднак імунітэт, не адрозніваючы, што небяспечна, а што неабходна, з аднолькавай стараннасцю абрушваецца і на мікробаў, і на чужы орган.

Вучоныя, узяўшыся за вырашэнне праблемы трансплантацыі органаў, вымушаны як бы павярнуць назад — навучыцца стрымліваць засцерагальныя сілы арганізма. Як?

Ёсць два кардынальныя шляхі — штучна стварыць у чалавека, які мае патрэбу ў перасадцы органа, цярплівасць да арганізма донара — так званую талерантнасць, альбо атрымаць рэчывы, якія асаджаюць сілы імунітэта.

### «ЗАЧАРАВАНАЕ КОЛА» ІМУНІТЭТУ

Ва ўсіх генетычных чужых бялковых рэчывах — антыгенах, арганізм бачыць ворага, які робіць замах на яго самабытнасць. Насцярожвае ўсё — мікроб, перасаджаная тканка альбо проста чужы бялок. І ў спрадвечным імкненні засцерагчы сябе ад небяспекі арганізм стварае супраць прышэльцаў абясшкоджваючыя іх антыцелы.

Антыгенаў — мноства. Магчыма, іх колькасць настолькі ж вялікая, наколькі непаўторная разнастайнасць бялкоў, і з кожным змагаецца асобнае, створанае спецыяльна супраць яго антыцела. Але механізм утварэння ўсёй гамы антыцел аднолькавы. У яго аснове — размнажэнне клетак лімфаіднай тканкі, куды прыходзяць звесткі аб уласцівасцях пранікнуўшага антыгену. Абмежаваць іх размнажэнне — значыць зменшыць колькасць антыцел, дазволіць іншароднаму рэчыву існаваць у арганізме.

Аднак усё аказалася не так проста. «Абмежавальнікі» размнажэння былі знойдзены. — Гэта — промні Рэнтгена і так званыя хімічныя цытастатыкі (дарэчы, без іх дапамогі ні адзін хворы, напрыклад, з чужой ныркай не пражыў бы і некалькі тыдняў). Але дзейнічаючы на лімфаідную тканку, яны адначасова падаўляюць неабходнае для жыцця развіццё і ўсіх іншых клетак: крыві, скуры, страўніка. Ці нельга знайсці сродкі ўздзеяння толькі на лімфаідную тканку? Нядаўна ў лабараторыях створаны сывараткі супраць «органаў» імунітэту, калоідныя радыёактыўныя прэпараты, якія захопліваючыся лімфаіднай тканкай, стрымліваюць размнажэнне толькі яе клетак. Здавалася б, задача вырашана. Але гэтыя прэпараты атрымалі ў спадчыну ад сваіх папярэднікаў адну адмоўную ўласцівасць — яны шкодзяць адразу ўсім клеткам імуннай сістэмы, а значыць, пазбаўляюць арганізм магчымасці засцерагацца ад пастаянна пагражаючых яму мікробаў.

Калі прааналізаваць салідны вопыт перасадак нырак (у свеце зроблена ўжо больш як тысяча аперацый), то аказваецца, што прычынамі смерці былі часта не адарванне перасаджанага органа, а запаленчыя працэсы, інфекцыйныя захворванні, нягледзячы на тое, што хворых трымалі ў стэрыльных палатах, кармілі стэрыльнай ежай, прымушалі дыхаць стэрыльным паветрам. Словам, часам узнікае зачараванае кола.

### «СФІНКСЫ» ДВАЦЦАТАГА СТАГОДДЗЯ

Першая дзірка ў непрыступным бар'еры імуналагічнай несумяшчальнасці была прабіта ў 1953 годзе чэшскім вучоным Міланам Гашэкам і англічанінам Піцерам Медаварам. Ім удалося «прывучыць» жывёлін да чужых бялкоў. Гэты эксперымент паўтораны ўжо дзесяткі разоў. Напрыклад, у лабараторыі савецкага вучонага Анастаса Лапчынскага некалькі гадоў жыве сабака з чужой лапай.

Піцер Медавар і Мілан Гашэк адкрылі заканамернасць — у эмбрыянальным становішчы або адразу пасля нараджэння сілы імунітэту маўчаць. І калі на гэтых стадыях развіцця ў арганізм увесці антыгены будучага донара, жывёліна на ўсё жыццё прызнае тканкі донара «сваімі» і любыя перасадкі — скуры, нырак, сэрца будуць магчымыя. Усе прыжываюцца. Але толькі ад гэтага донара.

У апошнія гады з'явіліся факты, якія паказваюць, што адказнасць за непрыжыванне чужых органаў ляжыць у асноўным на лімфацытах — белых клетках крыві. Іменна яны прыносяць у перасаджаны орган антыцелы, іменна іх знаходзяць у адмёршым органе.

Лімфацыты жывуць нядоўга, але іх «запасы» пастаянна папаўняюцца за кошт развіцця клетак касцянога мозга і лімфатычных вузлоў. А што калі жывёліне — рэцыпіенту спачатку перасадзіць касцявы мозг донара? Тады ж для лімфацытаў, якім ён дасць жыццё, органы таго ж донара не будуць чужыя? Перасадку касцявога мозга лёгка ажыццявіць, калі жывёліна папярэдне была абпраменена. Ён прыжываецца. Але замест нармальнага развіцця ў спелыя лейкацыты і эрытрацыты ўсе клеткі касцявога мозга ператворацца ў імунныя, гэта значыць здольныя нападаць на чужы арганізм. Вынік будзе трагічным — арганізм, які прыняў чужы касцявы мозг, загіне.

Пазбавіць перасаджаны касцявы мозг агрэсіўных магчымасцей здольны антылімфатычныя сывараткі. Лёс сываратак супраць лімфацытаў абмяркоўваецца ў навуковай прэсе, на міжнародных кангрэсах і сімпозіумах. Магчыма, іменна яны дапамогуць касцявому мозгу прыжыцца ў чужым арганізме?

Усім добра вядома, што медыкі часта звяртаюцца да пераліванння крыві. Чужой крыві! Аднак яна не выклікае бурнага пратэсту імунітат. Чаму?

У канцы мінулага стагоддзя аўстрыйскі вучоны Карл Ландштэйнер выявіў здзіўляючую яго заканамернасць. У крыві людзей ёсць антыцелы да чужых эрытрацытаў: яны вось і губяць іх. Таму такія беспаспяховыя былі раней пераліванні крыві.

Аказалася, гэтыя антыцелы маюць не так многа разнавіднасцей. Іх усяго дзве: альфа і бета. Значыць, і нападаюць яны ўсяго на два антыгены.

Магчыма, гэтак жа ўдасца падабраць і сумяшчальныя тканкі?

### «БАНК» ОРГАНАЎ

Для вырашэння праблемы перасадкі органаў і тканак патрабуецца праца і талент даследчыкаў розных напрамкаў навукі. Маральна-этычныя і юрыдычныя аспекты бурна абмяркоўваюцца цяпер на старонках сусветнай прэсы. Напрыклад, ці не ўзнікне сітуацыя, калі над яшчэ не памёршым чалавекам будуць схіляцца хірургі ў адзіным жаданні хутчэй канстатаваць смерць, таму што паміраючы — падыходзячы донар? Тыя самыя хірургі, свяшчэнны абавязак якіх — ратаваць, нават калі няма надзеі! І наогул, калі перасадкі стануць масавымі, дзе ўзяць неабходную колькасць здаровых органаў?

Прырода не стварыла чалавеку «запасных частак», і нават геніяльная тэхнічная думка не ў сілах выправіць гэты пралік. Цяпер практычна адзінай крыніцай органаў можа быць раптоўна загінуўшы чалавек. Але як захаваць органы жыццяздольнымі доўгі час? Пасля смерці чалавека нырка, напрыклад, жыве ўсяго 60—90 мінут. Натуральна, за такі кароткі час нельга падрыхтаваць да аперацыі хворага, які мае патрэбу ў перасадцы, правесці ўсе неабходныя працэдуры.

Дзе ж выйсце? Напэўна, у арганізацыі своеасаблівага «банка» органаў. Метады шматгадовага захоўвання такіх тканак, як касцявы мозг, кроў і некаторых іншых — ужо ёсць. Іх замарожваюць амаль да мінус двухсот градусаў, а спецыяльныя рэчывы, уведзеныя ў іх, прадухіляюць утварэнне буйных крышталяў лёду і пашкоджанне клетак вызваленымі солямі.

Для кансервавання органаў выкарыстаць гэты метад вельмі цяжка — адначасова «падаць» ва ўсе клеткі засцерагальныя рэчывы нельга. Але вопыт медыцыны паказвае, што такія праблемы вырашаюць параўнальна хутка. Ужо цяпер жыццё нырак, напрыклад, удаецца прадоўжыць у 10—20 разоў.

Ёсць і другая, больш аддаленая перспектыва. Усё жывое, як складана яно ні збудавана, нараджаецца з адной клеткі. Магчыма, пазнаўшы законы малекулярнай біялогіі развіцця, удасца ствараць органы ў лабараторыях? Гэта, вядома, датычыць галіны фантастыкі. Але хто паручыцца, што ёй, як і іншым, «неверагодным» цяпер ідэям імунолагаў, не суджана прыйсці ў жыццё?

Э. Г.

---




**Змест жоўтай папкі**

8 лютага 1939 года.

14 гадзін 28 мінут. Хворы прачынаецца.

— Дзе я?

— У шпіталі.

— Вы лекар?

— Так, я лекар і афіцэр ваенна-марскога флоту Германіі.

— Неадкладна паклічце адказнага разведчыка.

— Вось маё пасведчанне. Я афіцэр разведкі. Я ведаю ўсё аб вашым заданні. Называю пароль: аперацыя «Бібер». Расказвайце ўсё найважнейшае. Я слухаю.

— Яны загінулі — і лодка, і людзі!.. Гэта трагедыя, якую не перакажаш словамі! Не дай Бог, калі туды пашлюць другую!

— Яе патапілі? Як гэта здарылася? Калі, дзе? Што з камандай!

— Загінула лодка, загінулі людзі!

— Калі?

— У ноч на дваццаць трэцяга кастрычніка 1938 года.

— Вы ведаеце, што сёння восьмага лютага 1939 года? Адказвайце. Чаму вы маўчыцё?

— Гэта хлусня!

— Гэта праўда! Вас вылавілі ў акіяне паблізу той самай базы дзевяноста сем дзён назад.

— Гэтага не можа быць. Выходзіць, што я...

— Так, увесь гэты час вы былі непрытомны. Вы вельмі сур'ёзна захварэлі, Брэтмюлер. Але я зраблю ўсё, каб паставіць вас на ногі.

— Тры з палавінай месяца!

— Як гэта здарылася?

— Мы выйшлі ў раён размяшчэння аб'екта. Шлі пад вадой. Я даў загад падняцца і выставіць перыскоп. Па разліках быў захад сонца, і я спадзяваўся, што апынуся паміж выспай і заходзячым сонцам... Выбачайце, у мяне разбалелася галава.

— Нічога, нічога. Гаварыце хутчэй!

— Разлік быў правільны.

— Так, у перыскоп я ўбачыў выспу з базай. А справа скала... Чорт! У мяне расколваецца галава!

15 гадзін 17 мінут. Канец дзейнасці прэпаратаў.

23 лютага 1939 года.

Спроба паўтарыць эксперымент з іньекцыяй прэпаратаў у першапачатковай дазіроўцы. Няўдача.

5 сакавіка 1939 года.

Трэцяя спроба.

Доза іньекцыі павялічана на 100 000 адзінак. 15 гадзін 03 мінут. Хворы выглядае так, быццам прачнуўся пасля доўгага цяжкога сну.

— Што са мною здарылася ў мінулы раз?

— Глупства. Усё будзе добра. Працягвайце расказваць.

— Дык на чым я спыніўся?

— Вы ўсплылі пад перыскоп...

— І мы ўбачылі базу. Яна была на курсе, міль пятнаццаць. Справа тырчала гэтая праклятая скала!

— Вось ужо другі раз вы гаворыце аб нейкай скале. Што гэта за скала?

— Гіганцкая канічная скала. Адзінока тырчэла з вады. Страшная шэрая махіна. Яна была прычынай гібелі лодкі...

— Вы ўдарыліся ў яе?

— Не перабівайце! Ноччу мы ўсплылі, каб зарадзіць батарэю... Выбачайце, якога сёння?

— Пятага сакавіка.

— Выходзіць, я зноў быў доўгі час непрытомны?

— Вы былі непрытомны.

— Амаль месяц!

— Вы спалі. Гэта зрабіў я, бо сон для вас — найлепшае лякарства. Але працягвайце.

— Я зноў страчу прытомнасць?

— Працягвайце.

— Божа, няўжо ўсё паўторыцца?

— Вы дарма траціце час.

— Добра... Мы амаль закончылі зарадку, калі сігнальшчык прыкмеціў карабель. Гэта быў карвет. Ён ішоў на нас на вялікай хуткасці, Мы пайшлі ўглыбіню. Апусціўшыся на паўтараста футаў, мы спынілі рухавікі. Мне здалося, што карабель пачаў адварочваць управа. Не трэба выдаваць сябе шумам, мо нас яшчэ не выявілі, — падумаў я. Я зрабіў памылку... Дайце мне сігарэту.

— Для чалавека ў вашым стане табак — самы сільны яд.

— Толькі адну сігарэту!

— Нельга.

— Які вы жорсткі!

— Мы дарма трацім час.

— Карвет пачаў бамбіць нас. Выбухі, выбухі!.. Людзі былі аглушаны. Лодку кідала з боку ў бок. Я вырашыў уцякаць... Божа, усё гэты ж боль у галаве! Хутчэй адчыніце акно. Паветра!

15 гадзін 41 мінута. Канец дзейнасці прэпаратаў.

13 сакавіка 1939 года.

Чацвёртая спроба.

Доза групы іньекцый павялічана на 300 000 адзінак. Хворы прачнуўся ў 18 гадзін 47 мінут.

— Што са мною дзеецца?

— Нічога асаблівага. Лячэнне ідзе як трэба. Гаварыце, я слухаю.

— На чым я спыніўся?

— Вас бамбілі, вы вырашылі ўцякаць.

— Так. Мы доўга манеўравалі і ўдалося нам адарвацца ад праследвання. Я думаў, гэта — выратаванне. А лодка ішла да гібелі!

— Селі на мялізну ці наткнуліся на тую самую канічную скалу?

— Я забыў аб прыліўнай плыні. А ў той час як раз быў прыліў.

— Плынню вас ударыла ў скалу?

— Калі б гэта!.. Курс быў пракладзены так, што скала заставалася збоку. І раптам лодка тыцнула ў перашкоду. «Поўны назад!» — загадаў я. Лодка адскочыла, тут жа атрымала сільны ўдар у карму і затраслася ў вібрацыі. «Вінты!» — закрычаў мой памочнік. Выключылі рухавікі. Але мы спазніліся. Здарылася найстрашнейшае: лодка страціла вінты! Мы апынуліся ў западні. І раптам нехта крыкнуў: «Лодка рухаецца!» Сапраўды, у нас не было вінтоў і мы ішлі наперад. Нас цягнула плынь. Мы апынуліся ў падводным скальным тунелі. Нас увапхнуў туды прыліў, а можа, проста плынь, якую мы і не падазравалі. Прайшло звыш гадзіны. Лодка рухалася. Я падумаў: мо тунель скразны і мы, прабіраючыся наперад, выйдзем урэшце на свабоду?

— Тунель быў скразны?

— Не.

— Далей, Брэтмюлер!

— Мне цяжка гаварыць. Я хачу спаць. Дайце мне перадышку, я пасплю крыху...

— Вось вам сігарэта.

# ТРЫБУНА чытачоў

## СУСТРЭЧЫ Ў БЕЛАРУСКІМ ЛІЦЭІ

У 1967 годзе ў беларускім ліцэі ў Бельску Падляшскім адбылося шмат цікавых сустрэч. Да кожнай сустрэчы ўвесь ліцэй старанна рыхтаваўся. Наш ліцэй у мінулым годзе наведалі ліцэісты з Бытомя. Ліцэісты Шлёнска з зацікаўленнем выслухалі беларускіх вершаў, народных беларускіх песень у выкананні нашай моладзі.

На знак дружбы Бельскі ліцэй атрымаў разьбу з вугалю, Бытомскі — наплеценай з саломы падстаўцы белавежскага зубра. Усе сустрэчы праходзілі вельмі цікава і павучальна толькі дзякуючы добрай падрыхтоўцы да іх нашых ліцэістаў, выкладчыкаў і дырэктара Міколы Раманавіча Гайдука.

Вераніка Леанюк
Бельскі павет

## ХОЛАДНА АБ ДАСТАЎЦЫ ТАВАРАЎ

У крамах ГС Нараўка (Гайнаўскі павет) зімою не можна дастáвіць ні галёшаў, ні «татшанак», ні цёплай бялізны або хусткі. А ўжо пра райстопы і гаварыць няма чаго. Іх ніколі няма. І таксама маецца справа ў Ляшуках, Семяноўцы, Плянце і іншых вёсках.

Да Ляўкова гэтыя так неабходныя ў зімовы час артыкулы прывязла з гуртоўні ў Бельску Падляшскім Галя Гарустовіч. Штопраўда маладая прадаўшчыца Галя Гарустовіч дбае аб забеспячэнне сваёй крамы ў тавары, дбае аб шырокі асартымент тавараў. Цяпер яе тэкстыльна-прамысловая частка крамы мае тавараў на 209 тысяч зл. Але вышэй успомненых тавараў няма ў ГС-е.

І яшчэ адна прыкрая з'ява выступіла ў нашых вясковых крамах. ГС у Нараўцы не абяспечыў сваіх крамаў вуглём, і ў іх холадна. Замярзае нават чарніла. Прадаўцы ратуюцца ад холаду палячы ў печцы тэктуровыя або драўляныя апакаванні ад тавараў. Прыносяць крыху дроў ці вугалю з хаты. Нялёгка працаваць у халодных крамах прадаўшчыкам. Чаму ГС у Нараўцы не задбала пра сваіх працаўнікоў. Раней такіх хібаў не было. Хтосьці павінен за гэта адказваць.

(ЯЦ)
Нараўка

## ПЕРАДАВЫ ГАСПАДАР

Вёска Янова знаходзіцца недалёка Нараўкі, па шашы да Белавежы. Гэта маленькая прыгожая вёсачка выбрукавана і электрыфікавана. І калі ідзеш праз вёску, тады найбольш кідаецца ў вочы забудаванне Янкі Леўшы. Гэта прыкладны гаспадар. У яго на падворку і кругом забудаванняў, як у нікога, парадак. Ён з'яўляецца і добрым жывёлагадоўцам. Трымае бугая і кнура.

Крапіўка
з-пад Нараўкі

---

— О, дзякую! Божа, як кружыцца галава!.. Не, не магу курыць.

— Гаварыце, Брэтмюлер!

— Мы вычакалі каля дзвюх гадзін і вырашылі ўсплыць. Як скрозь сон, чуў я голас матроса, які лічыў паказанні глыбіняметра. Мы падніміліся...

— Перабіваю вас. Якія глыбіні былі ў тунелі?

— Прыкладна сто пяцьдзесят футаў.

— Вельмі цікавы тунель!

— І вось на глыбіняметры нуль. Я адкрываю люк і падымаюся на мосцік. Мяне ахоплівае цішыня і цемра. Нас быццам у туш ахунулі. Абсалютная цемра. Я ўспомніў «Наўцілюс» капітана Нема... Міжволі я крыкнуў. Гук пакаціўся недзе далёка, і праз нейкі час да мяне вярнулася рэха. Я быў ашаломлены. Сумненняў не было — лодка ўсплыла ў велізарным гроце!..

— Што ж вы?.. Стойце, я падтрымаю вас!

19 гадзін 11 мінут. Канец дзеяння прэпаратаў.

Гэта была апошняя старонка. Канарыс перагарнуў яе і закрыў папку.

Толькі цяпер пачуў ён гукі музыкі. За раялем сядзеў Абст.

— Вось што, — сказаў Канарыс. — Дай загад, каб нам прынеслі паесці. Мы павячэраем і пагутарым. І не цягні — нас чакае шмат спраў.

Вячэру наладзілі ў суседнім памяшканні. Канарыс з апетытам паеў.

— Вернемся да паказанняў Брэтмюлера, — сказаў ён, калі падалі піва. — У мяне з галавы не лезе гэты дзіўны грот. Падумаць толькі, ён пад бокам той самай базы! Гаспадары яе, відаць, і не падазраюць аб існаванні ў скале тіганцкага тайніка.

— У гэтым і справа, — кіўнуў Абст.

Канарыс рашуча ўстаў:

— Не будзем траціць часу! Ідзем да Брэтмюлера. Я сам распытаю яго.

**(Працяг за тыдзень)**

## НАВАГОДНЯЯ ЁЛКА

14 студзеня ў памяшканні пачатковай школы ў Рыбалах адбылася навагодняя ёлка. Урачыстасць пачалася песнямі і вершамі дзяцей дашкольнага ўзросту. Акрамя вершаў і песень былі наладжаны дзве беларускія п'есы. Першая п'еса Ул. Паўлючука «Конская кніжка» ў выкананні вучняў шостага класа, другая А. Барскага «Гарадскія госці», якую выканалі вучні восьмага класа. Рыхтаваліся вучні пад кіраўніцтвам настаўніцы Іры Баршчэўскай. У залу неспадзявана ўвайшоў дзед Мароз і раздаў дзецям падарункі. Тады ўсе з пачкамі ў руках пачалі гуляць з дзедам Марозам. У 18 гадзін пачалася забава для старэйшай моладзі. І так, урачыстасць навагодняй ёлкі ў школе ў Рыбалах адбылася з багатай праграмай і весялосцю людзей з навакольных вёсак.

«Чарот»

## «НІВЫ» НАЙБОЛЬШ

Чытачы Гайнаўскага павета ў 1968 годзе зрабілі падпіску на «Аграхімію» — 966, «Хлопску Дрогу» — 872, «Гаспадыню Вейску» — 95, «Грамаду Рольнік Польскі» — 80, «Нашу Весь» — 471, «Плён» — 310, «Пшыспособене Ральнічэ» — 211, «Зялёны Штандар» — 260, «Трыбуну Люду» — 48, «Пшыяцёлку» — 710, «Свершчык» — 636, «Пломык» — 559, «Глос Научыцельскі» — 77, «Свят Млодых» — 26, «Газету Беластоцку» — 2178 і «Ніву» — 2457.

**Янка Цалушэцкі**
Ляўкова

## ПАСЛУГІ ДЛЯ СЯЛЯН

Вёскі грамады Юшкаў Груд мелі вялікія цяжкасці з пакупкай мінеральных угнаенняў. Кожны селянін вымушаны быў ехаць аж у Міхалова, якое адлеглае за 12 км. Давоз іх забіраў шмат часу. Зараз праўленне міхалоўскага ГС-у пастанавіла вырашыць гэту справу. У прыватных сялянскіх будынках падрыхтавала месца на склады. Уласным транспартам ГС давозіць у склады на вёскі мінеральныя ўгнаенні, адкуль сялянам лепш і выгадней прыступаць да пакупкі. Ужо не трэба валачыся ў Міхалова і цэлы дзень на гэта траціць. Зараз можна іх на месцы купіць. Магазіны з мінеральнымі ўгнаеннямі знаходзяцца ў Юшкавым Грудзе і Рудні. За такую паслугу ўсе сяляне ўдзячны міхалоўскаму ГС-у.

М. С.
Юшкаў Груд




**Дарагое Сэрцайка!**

З'яўляюся сталай чытачкай «Нівы». Твае трапныя парады чытаю ў кожным нумары. Калісьці я ўжо да цябе пісала і атрымала вельмі добрую параду. Цяпер я ізноў надумалася напісаць і прасіць парады.

Аднойчы я была ў горадзе. Чакала на цягнік. У тэты момант падышоў да мяне незнаёмы хлапец з прыгожай кветкаю ў руцэ і кажа: «Ці магу «асвядчыцца?» Як я павінна была ў той момант паступіць, што яму адказаць?

Па-другое: хачу я пазнаёміцца і перапісвацца з хлопцам з-за граніцы: Францыі або Англіі. Ці можаш мяне пазнаёміць?

Чакаю адказу
Чытачка з Бельскага павета

**Дарагая Чытачка!**

Адказваю на першае тваё пытанне: трэба было ўзяць кветку і падзякаваць. На далейшае знаёмства з незнаёмым хлопцам не раю табе. Напэўна не раз ты сама чытала ў газетах аб выпадковых знаёмствах, якія канчаюцца трагедыямі. Асабліва ў гарадах.

Што датычыць твайго другога запытання, дык нічога асаблівага не магу табе зрабіць. Змяшчаю твой ліст, мо хто адгукнецца на тваю прапанову, каб пазнаёміцца і перапісвацца. Аднак ніякіх канкрэтных адрасоў хлопцаў з-за граніцы мы не маем, і такога роду «кутка» «Ніва» не вядзе.

Жадаю ўсяго найлепшага
**Сэрцайка**

## НАЙАКТЫЎНЕЙШЫ

Нялёгка добра выконваць грамадскія функцыі. Асабліва многа спраў мае радны, які жыве ў гушчы мас і дасканала ведае ўсе вялікія і малыя праблемы данага асяроддзя. Да найлепш працуючага раднага грамады Гарадок у Беластоцкім павеце залічваецца Павел Кандрусік. У працах ГРН ён шмат дапамагае, шмат падказвае, як вырашыць тую ці іншую справу.

(с)
Гарадок

## УЖО Ў 30%

Кантрактацыя сталася на нашых вёсках адным з галоўных штуршкоў развіцця сельскай гаспадаркі. У апошніх гадах уведзена і кантрактацыя збожжа. Кожная грамада атрымала план кантрактацыі на гэты год. У Юшкавым Грудзе (Беластоцкі павет) ужо многія сяляне падпісалі дагаворы з ГС-амі адносна кантрактацыі збожжа. План грамады выкананы ўжо ў 30%.

(хм)



**Завеяла.** **фота: Аляксей Казёл**

## АСВЕТА ДАРОСЛЫХ

З асветай дарослых ёсць нямала клопатаў. Вядома, што ў сучасны час асвета з'яўляецца часткай жыцця чалавека. На сённяшні дзень у Бельскім павеце аж 2848 асоб ва ўзросце 17—35 год не мае закончанай поўнай пачатковай школы (больш у вёсках). Даволі вялікі лік, бо аж 202 асобы — гэта працаўнікі горада Бельска. У Бельскім ПСС-е без поўнай пачатковай школы працуе дзевятнаццаць асоб, у аддзеле меліярацыі — 8 асоб, раёне тэлекамунікацыі — 6 асоб, будаўлянцы — 21 асоба і г.д. Аддзел асветы стварае шырокія магчымасці арганізавання вечаровых школ і курсаў у межах праграмы сёмага класа пачатковай школы з мэтай дапамагчы набыць патрэбныя веды, якія неабходны ў сучасны час у працы, у горадзе і ў вёсцы. Зімовы час самы карысны да гэтага. Настаўнікі ў мінулым годзе, як і цяпер, цяжар працы на курсах прымаюць з ахвотай. Трэба адзначыць, што для сарганізавання класаў VI-га ці VII-га патрэбна толькі пятнаццаць слухачоў. (У вытлумачальных выпадках можна арганізаваць пры ліку 8 слухачоў). Такая колькасць назбіраецца ў многіх абводах школ, як: Пілікі, Малочкі, Малінікі, Гаrange, Орля, Боцькі, Катлы, Спічкі і ў многа, многа іншых. Вас, жыхары, гэтыя словы датычаць. Школы на Вас чакаюць. Варта скарыстаць з гэтых магчымасцей.

К. С.
Катлы

## НА ЎЗРОЎНІ СВАІХ АБАВЯЗКАЎ

Найважнейшым чалавекам вёскі з'яўляецца солтыс. Ён і сувязны паміж прэзідыумам грамадскай рады нарадовай, ён і фінансавы інкасент, ён галоўны арганізатар усіх пачынанняў вёскі (як культурных, так і гаспадарчых). Дацэньваючы ролю і значэнне солтысаў у Гайнаўскім павеце на пасяджэнні прэзідыумаў ГРН пры ўдзеле прадстаўнікоў грамадскіх камітэтаў Фронту адзінства народа і палітычных арганізацый быў праведзены аналіз дагэтуляшняй працы солтысаў.

Кадэнцыя солтысаў працягваецца 3-ы гады. У апошніх месяцах мінулага года былі праведзены выбарчыя сходы ў вёсках Гайнаўшчыны.

На агульную колькасць 148 салэцтваў у Гайнаўскім павеце выбарчыя сходы адбыліся ў 113 мясцовасцях. У апошніх вёсках адбыліся толькі справаздачныя сходы, таму што перавыбары гэтых солтысаў з тых ці іншых прычын адбыліся ў тракце кадэнцыі. Падчас выбарчых сходаў толькі ў 8-мі выпадках былі выбраны новыя асобы на гэтую функцыю. Вялікая колькасць солтысаў выбраных паўторна сведчыць аб тым, што ў павеце належна сфармавалася і скрысталізавалася добрая кадра солтысаў, якія цешацца вялікім аўтарытэтам сярод аднавяскоўцаў і якія належна выконваюць свае нялёгкія абавязкі.

Намеснік старшыні
Прэзідыума ГРН у Гайнаўцы
інжынер М. Ражкевіч

# КІНО

**Праграма**
**на 6—11.II.1968 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**
„Pałace w płomieniach" (rumuński), 6—7 „Pociągi pod specjalnym nadzorem" (czeski) 8—9. „Kryptonim Nektar" (węgierski), 10—11.

**Дубіны**
„Lenin w Polsce" (polski), „Gorzkie dno rzeki" (jugosł.), 10—11.

**Нараўка**
„Mroźny poranek" (radz.), „Złodziej samochodów" (radz.), 7—11.

**Нарва**
„Najazd Czarnego księcia" (radziecki), „Ludzie w hotelu" (USA), 7—11.

**Чыжы**
„Partyzanckim szlakiem" (jugosł.), „Wojenka, wojenka" (rum.), 7—11.

**Дубічы Царкоўныя**
„Pancernik Potiomkin (radz.), „Pluton 317" (franc.), 7—11.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Zielone światło" (radz.) „Sami na wyspie" (jugosł.), 7—11.

**Орля**
„Dialog" (węgierski), „Sam pośród miasta" (polski), 7—11.

**Райск**
„W poszukiwaniu wczorajszej miłości" (węgierski), „Gwiazdy w morzu" (radz.), 7—11.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Śmierć biurokraty" (kubański), „Po wielkiej burzy" (szwajcarski), 6—9.

**Міхалова**
„Piąty jeździec Apokalipsy" (czeski), 6—7. „Stajnia na Salwatorze" (polski), 8—9. „Galia" (francuski), 10—11.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„W martwej pętli" (radz.), 6—7. „Kamo znany osobiście" (radz.), 8—9. „Kamo niebezpieczna misja" (radz.), 10—11.

**Шудзялава**
„Na pokładzie stanął kapitan" (radz.), „Ściana czarownic" (polski), 7—11.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Jowita" (polski), „Szare kaczątko" (radz.), 7—11.

**Новы Двор**
„Najazd Czarnego księcia" (radziecki), „Gdy miłość przemija" (jugosł.), 10—11.

**Ліпск**
„Sabrina" (USA), „Umrzeć w Madrycie" (franc.), 10—11.



Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok i Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. G-3. NAKŁAD 7673

# НАШЫ ДЗЕЦІ

Каханенькая суседачка Мальвіна. Нядаўна я была на рынку ў Гарадку і сустрэла сваю сяброўку яшчэ з дзявочых лет. Ох і нагаварыліся ж мы з ёю, каб не той шпікілянт, што адагнаў купцоў ад нашае Лысухі, то яшчэ больш нагаварыліся б, а то сам не купляе і людзям ганіць. Пасля, як мой стары вывярнуў на яго кажуха, то адчапіўся і кароўка хуценька прадалася. Пасля хацела я споўніць тваю просьбу, што ты мяне на Пакрову прасіла. Мо ты і забылася, але я то добра помню, бо ты прасіла, каб падсватаць хлопца дачцы тваёй сястры, Тэклі, а за гэта сястра твая абяцала двое парасят па восем нядзель. Пытала я таго, то другога, а нават зараз пасля Пакровы спіцыяльна хадзіла да Дзернякова, быццам бы авечак купіць. Знаеш, Мальвінка, вельмі ж цяжкая справа знайсці хлопца, і то яшчэ ў вясковыя прыступы. Усе дзесь у горад ідуць і як бач то і жанаты. Каб ты знала, даражэнькая, якіх яшчэ жонак дарагіх пазнаходзілі. Агапін Жэнік то нават з залатымі валасамі, а Тодараў Колік то яшчэ якуюсь даражэйшую — казаў бацька. Цяпер я толькі ўцяміла словы Міранавае Стэфкі, што «ў прыступы пойдзе толькі той, якому не давераць пэгээрскіх кароў пасвіці». Так яно і ёсць. У маёй сястры было чатыры сыны і ўсе ў прыступах, але ў Беластоку. Самы наймалодшы яшчэ не жанаты робіць на будоўлі, а на гаспадарку і ісці не хоча. «Я не дурань, кажа, працаваць на гаспадарцы». І праўду ж: бо там яго адзелі, нават рукавіцы новенькія далі і боты да самага пояса, як у Бзычэўскага, што калодзежы капае. Вось ён і пан. Часам толькі прыедзе ў нядзелю старых, як ён кажа, адведаці. Маці толькі любуецца сынам і яго новенькаю тэчкаю, у якую адзін раз цэлы кумпяк і два літры смятаны змесцілася. «Чаго ж мне, кажа, забітае вёскі трымацца — вопратка дарэмная, абутак таксама, кожны месяц каля 1200 зл., і раз у год адпачынак у Закапаным».

Ну і падумай, даражэнькая, сапраўды нашым маладым жывецца вельмі добра. Цікавіць мяне толькі адно: як будзе, калі старыя бацькі не змогуць працаваць, ці тыя добрыя сынкі і дочкі хаця раз прыедуць адведаць старых? І як будзе выглядаць тая новенькая тэчка, якою нядаўна так моцна любавалася мая сястра. Ты знаеш, суседачка, я то думала вельмі доўга, як бы пакіраваць сваім сынам, а пасля сказала яму: бяры за жонку Марцінаву Лёньку і жыві на гаспадарцы. Дзе ж ты пасунешся, калі ты толькі 7 класаў скончыў. І кажу яму: маеш у горадзе мясіць гліну на будоўлі і цягнуць ад мяне кумпячкі, як твой дваюрадны браток, то лепш мясі на бацькоўскім загоне, земляробаў нам таксама трэба. Ён паслухаў і так зрабіў. А ці ты, кумачка, знаеш, чаго я баялася? Падумаеш, пойдзе ў горад, а як занядужаем са сваім старым, то будзе як з Маркаваю Любаю — сын у горадзе маёрам, а маці 3 дні памёршы ляжала і ніхто не ведаў.

Ох вы, дзеці!

Міхаліна
суседка Мальвіны

# НІЎКА

## НАГЛЯДНАСЦЬ

Да касы філармоніі падышла жанчына з маленькай дачкой і запытала:

— Колькі каштуе білет у першым радзе?

— 30 злотых, — адказала касірша.

— Бачыш, людзі плацяць 30 злотых за білет, — звярнулася маці да дачкі. — Можа, нарэшце, зараз ты пачнеш вучыцца іграць на скрыпцы.

## ПАДЛІЧЫЎ

— Чаму ў Сцяпана няма пальцаў на правай руцэ?

— Ён засунуў іх у рот каню, каб падлічыць, колькі ў таго зубоў.

— Ну і што?

— Конь закрыў рот, каб падлічыць, колькі пальцаў у Сцяпана.

## ПАРАДА

Дама адвакату:

— Шэсць гадоў назад мой муж выйшаў вечарам за фасоляй і да гэтага часу не вярнуўся. Што рабіць?

— Адзіная мая парада — адкрыць слоік з зялёным гарошкам.

## «ЭКСПРЭС»

У акне пральні «Экспрэс» вісіць маляўнічая аб'ява: «Мыццё за 24 гадзіны». У пральню ўваходзіць кліент і аддае касцюм. Прыёмшчыца гаворыць:

— У суботу будзе гатовы.

— Чаму ў суботу? Сёння серада, а вы мыеце за 24 гадзіны!

— Паважаны, мы працуем 8 гадзін у дзень! Сёння 8 гадзін, у чацвер 8 і ў пятніцу 8 — усяго 24 гадзіны. У суботу раніцай касцюм будзе гатовы.

## ПЫТАННЕ

Пасля вельмі доўгай прамовы прамоўца пытае ў слухачоў:

— Пытанні ёсць?

— Ёсць.

— Слухаю.

—Колькі гадзін?

Ул. Корбан

## ЛЯ ПЕЛЬКІ

### БАЙКА

Узбег аднойчы воўк на лёд.
Магчыма, ён хацеў вады напіцца,
Ды ў пельку трапіў абармот,
Ну і пачаў тапіцца.
Але бяда магла б і не адбыцца,
Каб гэта быў не воўк, а іншы хто.
Па беразе якраз ішлі кудысьці двое.
Убачыўшы, што гіне штось жывое,
Адзін з іх скінуў паліто
І кінуўся на лёд — патрэбна ж ратаваць.
Другі хацеў за ім на лёд скакаць,
Але прыгледзеўся, — ваўчугу ў пельцы туга!
«Чакай, чакай! — крычыць ён сябруку, —
Не трэба ратаваць ваўчугу!»
А той не чуе і ваўку
Працягвае руку,
Стараецца схапіць яго за лапу
І выцягнуць на лёд, каб вызваліць з бяды.
А воўк рэагаваў на гэта, як заўжды,
Па-воўчаму: разявіў зяпу,
Зубамі — клац! — ля саменькай рукі, —
Ледзь іклы вострыя ў далоню не ўпіліся.
«Ага, ты вось які! —
Збавіцель крыкнуў. — Што ж, тапіся,
Хай будзе меней на зямлі адным зверам».

Калі бяда здараецца з сябром, —
Дапамагчы яму тут кожны мусіць.
А вось драпежніку, на ўвазе гэта май,
Рукі не падавай, —
Укусіць.

Без слоў.

## ПРАЗОРЛІВАСЦЬ

Маладая жанчына разам з мужам збіраецца ў марское падарожжа. Прыйшла суседка і, убачыўшы адчынены чамадан, запытала:

— Не разумею, навошта табе так многа чорнага адзення?

— Ведаеш, мой муж вельмі кепска плавае...

## ГРОШЫ АБО МАЗГІ

Увечары прыезджы рабіў прагулку па Нью-Йорку. Раптам на яго напалі бандыты.

— Грошы, або выпусцім мазгі.

— Лепш мазгі, — адказаў той. — У Нью-Йорку лягчэй пражыць без мазгоў, чым без грошай.

Без слоў.

## ДУМКІ ЯСЬКІ АПАЛОНІКА

**Бяда кожную галаву нахіляе да зямлі, а радасць выпростоўвае нават гарбатых.**

**Адных розуму вучыць школа, другіх удасканальвае турма.**

**Чалавек, які скрыгоча зубамі, вельмі хутка можа астацца без зубоў.**

**Хто ўмее цешыцца чужым шчасцем, таму лягчэйшыя бываюць усе цяжкасці.**

**Памаляванае старое бывае прыгажэйшым за дрэнна зробленае новае.**

— **Як вам удаецца не блытаць іх?**
— **А мы назвалі іх рознымі імёнамі...**

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Валі Дзмітрук з Барысаўкі, Гайнаўскага павета, і Васіля Лапінскага з Чорнай-Беластоцкай, Беластоцкага павета, змяшчаем песню п.з.

## *Żyje się raz*

Ładny chłopiec, z profilu i en face,
niech mnie przytula, niech mnie rozczula,
bo żyje się raz, żyje się raz,
żyje się tylko raz!
Jak wiadomo, nie stoi w miejscu czas,
trwało niedługo i znalazł drugą,
bo, żyje się raz, żyje się raz,
żyje się tylko raz!
Inna była dziewczyną pełną kras,
ją dziś czaruje, jej dziś klaruje,
że żyje się raz, żyje się raz,
żyje się tylko raz!
Jak fałszywie zadźwięczał jego głos:
Wybacz, kochanie, to pożegnanie,
cóż, żyje się raz, żyje się raz,
żyje się tylko raz!
Wielki płomień był w sercu ale zgasł,
winić nie sposób igraszek losu,
a żyje się raz, żyje się raz,
żyje się tylko raz!
Pomyślałam: odkręcić może gaz...
Tęsknię i wzdycham, żal mi, do licha,
wszak żyje się raz, żyje się raz,
żyje się tylko raz!
Gra jak w kartach, tu dwójka, a tam as,
czasem tak bywa, że ktoś wygrywa,
więc żyje się raz, żyje się raz,
żyje się tylko raz!
Czy z rąk pustych, czy z pełnych złota kas,
ból spływa częściej a rzadziej szczęście,
choć żyje się raz, żyje się raz,
żyje się tylko raz!
Drzewa kwitną i wiecznie szumi las,
słońce gra cieniem, miłość cierpieniem,
a żyje się raz, żyje się raz, żyje się raz,
żyje się tylko raz!

# КУРЁЗЫ

## Вось дык цярплівасць!

У іранскай мячэці Куман з 1072 года заўсёды стаіць асядланы конь і пры ім конюх. Яны чакаюць, калі ўваскрэсне пахаваны тут правіцель Мухамед ібн-Дауд.

## «Сяброўская» размова

Калі самалёт Нью-Йорк — Лондан падняўся ў паветра, нішто спачатку не прадказвала бяды. Амерыканская спявачка Джудзі Гарлан мірна гутарыла са сваім антрэпрэнёрам Раймонам Філіберці. А яго жонка вяла гутарку са сцюардам, праўда, вельмі гучна. Але раптам Гарлан павярнулася да яе і сказала: «Закрыйце клапан, я нічога не чую». У адказ пані Філіберці наладзіла ў самалёце такую патасоўку, што ў ход пайшлі нават чаркі з-пад брэндзі. «Гэта было сапраўднае пекла», — успамінала пазней спявачка, якая тут жа вярнулася ў Нью-Йорк, адмяніўшы гастролі ў Лондане. І дадала: «Няхай мяне пярун заб'е, калі я хоць раз сустрэнуся з ёю».

## Дэтэктывы і гандаль

У адным з французскіх магазінаў выкарыстоўваецца новы прыём рэкламы. Прадаўшчыцы загортваюць пакупкі ў паперу, на якой надрукаван урывак з дэтэктыўнага рамана. Працяг — на новай партыі паперы праз тыдзень.

# МІЖ НАМІ

**Праўда нагадвае цыбулю: той, хто хоча садраць з яе лушпіну, павінен заплакаць!**